## Вынікі чарговай падпіскі абнадзейваюць, але...

У гэтым квартале ў ТБМ было надзвычай цяжкае фінансавае становішча, бо нашыя мясцовыя фундатары вельмі збяднелі і не маглі выдзеліць значныя грашовыя сродкі на падпіску.

Тым не меней гэтыя людзі ёсць, і мы выказваем шчырую падзяку прадпрымальнікам з Камянца, Мазыра і Горадні, якія дапамаглі падпісаць "Наша слова" для мясцовых школ і бібліятэк.

Разам з тым сёння мы можам выказваць падзяку і тым "ціхім" беларусам, якія жорстка сталі на пазіцыю падтрымкі нашай газеты і стаяць на ёй з 1997 года. Прыйдзе час і мы скажам імёны.

Крыху актывізаваліся і нашыя індывідуальныя падпісчыкі. На першае месца сярод абласных гарадоў выйшла Горадня – 93 падпісчыкі. Значна ўзмацніліся пазіцыі нашай газеты ў Гродзенскім раёне – 46 асобнікаў. Можна адзначыць актыўнасць нашых суполак у Дзятлаве, Смаргоні, Слоніме і Шчучыне, дзе падпіска павялічылася. А вось дзейнасць нашых сяброў з Ліды і Ваўкавыска нас моцна засмуціла. Толькі ў Лідзе колькасць падпісчыкаў зменшылася аж у два разы. Над гэтым варта сур'ёзна падумаць.

На другое месца, але з добрым вынікам – 88 асобнікаў, дзякуючы намаганням старшыні Гомельскай абласной арганізацыі ТБМ сп. Бароўскага, - перамясціўся Гомель. Заслугоўвае падзякі і дзейнасць сяброў ТБМ з Жыткавіцкага раёна (старадаўняя Тураўшчына). Колькасць экзэмпляраў падпіскі – 36 – могуць пазайздросціць нават некаторыя абласныя гарады. Крыху палепшылася сітуацыя ў Светлагорску, але 8 падпісчыкаў на такі вялікі горад – гэта вельмі мала, у той час, калі Мазыр падпісвае 37 экзэмпляраў газеты.

На трэцім месцы знаходзіцца Бярэсце, дзе колькасць падпісчыкаў узрасла, дзякуючы актыўнасці сяброў гарадской арганізацыі ТБМ з 28 да 46 асобнікаў.

Значны рост падпіскі адбыўся ў Баранавічах – 29 асобнікаў, крыху пасунуліся наперад Бяроза, Белаазёрск і Кобрын. На жаль, нашыя сябры з Івацэвічаў, Пружан і Століна фактычна завалілі падпісную кампанію II квартала.

Нарэшце актывізаваліся сябры ТБМ у Віцебску, дзе колькасць асобнікаў "Нашага слова" ўзрасла з 29 да 44 чалавек, дзякуючы намаганням выкладчыкаў ВДУ. Аднак першае месца – 50 асобнікаў – у вобласці заняў горад Полацк, які нават абагнаў суседні Наваполацк, дзе сітуацыя таксама неблагая – 41 асобнік нашай газеты. Трэба адзначыць і актыўную дзейнасць нашых сяброў з Шаркаўшчыны (рост на 5 асобнікаў).

На жаль, рэзка ўпала падпіска ў Лёзненскім і Шумілінскім раёнах, пры стабільнай сітуацыі ў Гарадку і Мёрах.

Асобна трэба сказаць пра горад Менск, які набліжаецца да лічбы 500 і ўвесь час павялічвае колькасць падпіскі ( з 447 да 464). У гэтым вялікая заслуга спн. Алены Анісім і кіраўнікоў раённых гарадскіх радаў ТБМ. З іншых гарадоў Меншчыны вызначаецца Маладэчна (23 асобнікі) і Стоўбцы (12 экз.). Астатнім суполкам Меншчыны хваліцца вынікамі падпіскі, на жаль, не выпадае.

Самая складаная сітуацыя з падпіскай на Магілёўшчыне, дзе ўся падпіска разам з Магілёвам складае толькі 96 асобнікаў. Аднак і тут варта адзначыць актыўную дзейнасць сяброў ТБМ з Асіповічаў і Шклова, якія на фоне агульнага заняпаду выглядаюць няблага.

Паважаныя сябры! Каб наша газета выходзіла і надалей, варта актывізаваць падпіску на другое паўгоддзе і да гэтага трэба рыхтавацца ўжо зараз.

Каталог на 2-е паўгоддзе 2002 года выйшаў. "Наша слова" можна знайсці на ст. 43. Кошт падпіскі на месяц 489, на тры месяцы 1467 рублёў.

*Старшыня ТБМ*
*Алег Трусаў.*

## У БДУ культуры

У БДУ культуры адбылося пасяджэнне кафедры беларускай мовы і літаратуры, на якім разглядаліся новыя паступленні ў бібліятэку універсітэта вучэбна-метадычнай літаратуры, а таксама забеспячэнне студэнтаў мастацкай літаратурай, падручнікамі, інфармацыйнымі і даведачнымі матэрыяламі, тэхнічнымі сродкамі навучання, нагляднымі дапаможнікамі.

Загадчык кафедры, прафесар Вольга Гуліцкая запрасіла на паседжанне супрацоўнікаў бібліятэкі, якія падрыхтавалі выставу кніг з апошніх паступленняў, пра што распавялі загадчык бібліятэкі Галіна Дашкевіч, метадыст Галіна Сёміна, загадчык аддзела камплектавання Алена Палуянава. Студэнты 5 курса Юнік Вольга і Блажук Таццяна расказалі пра публікацыі ў часопісах "Роднае слова", "Беларуская думка", "Полымя" і інш., прысвечаныя 120-ай гадавіне з дня нараджэння Я.Коласа і Я.Купалы.

На пасяджэнні ўзнікла дыскусія аб страце ў студэнтаў цікавасці да кнігі, аб пашырэнні інфармацыі пра новыя кнігі, аб лёсе спісаных кніг і інш.

Дыскусія ўдала перайшла ў экскурсію ў аддзел рэдкай кнігі, якую правяла галоўны бібліятэкар Ларыса Доўнар. Супрацоўнікі кафедры пазнаёміліся з літаратурай, што стала гонарам аддзела.

*Людміла Дзіцэвіч.*

**Анатоль Грыцкевіч**

## Канстытуцыя 3 траўня 1791 г. і Беларусь

У канцы XVIII стагоддзя, падчас дзеяння Чатырох-гадовага сойму Рэчы Паспалітай 1788-1792 гадоў была прынятая канстытуцыя (3 траўня 1791 г.). Гэта быў другі ў свеце Асноўны за-кон пасля канстытуцыі ЗША 1787 года. Нават канстытуцыя рэвалюцыйнай Францыі была прынятая толькі праз чатыры месяцы – у верасні 1791 года. Канстытуцыя 3 траўня 1791 г. мела непасрэднае дачыненне да Беларусі і Літвы. Яна не з'яўляецца толькі польскай гістарычнай падзеяй, як гэта лічаць некаторыя, у асноўным польскія гісторыкі.

Канстытуцыі 3 траўня папярэднічалі палітычныя падзеі канца XVIII стагоддзя ў федэратыўнай дзяржаве Рэчы Паспалітай, якая складалася з дзвюх дзяржаў – Польшчы і Вялікага Княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага (Беларуска-Літоўскай дзяржавы). Гэта быў перыяд рэформ у Польшчы, Літве і Беларусі, спроба ўмацавання дзяржавы і абароны ад захопніцкіх планаў імперскай Расіі, з аднаго боку, і яе хаўрусніцы, Прусіі, з другога.

На Чатырохгадовым сойме 1788-1792 г.г. партыя рэформ ("патрыятычная партыя"), якая прадстаўляла інтарэсы прагрэсіўных пластоў шляхты, а таксама прадстаўнікоў буржуазіі з гарадской верхавіны, намагалася правесці шырокія сацыяльныя, палітычныя і эканамічныя рэформы, каб вывесці краіну з феадальна-прыгоннага ладу і пачаць пераход на рынкавы шлях. Мэтай рэформ было таксама ўмацаванне дзяржаўнага ладу краіны, узмацненне цэнтральнай улады і супрацьдзеянне суседнім абсалютысцкім манархіям – Расіі, Прусіі і Аўстрыі, якія імкнуліся захаваць дэцэнтралізаваны лад Рэчы Паспалітай, а па магчымасці, і падзяліць яе паміж сабой. Першы падзел яе тэрыторыі ўжо быў зроблены прадстаўнікамі гэтых дзяржаў у 1772 г., калі ў Пецярбургу пад наглядам Кацярыны II была падпісана канвенцыя аб першым падзеле. Тады Расійская імперыя захапіла тагачасную Беларусь, гэта значыць цяперашнюю Паўночную і Усходнюю Беларусь з Полацкам, Віцебскам, Оршай, Мсціславам, Магілёвам і Гомелем. Аўстрыя атрымала Заходнюю Украіну і паўднёвыя землі Польшчы, а Прусія – заходнія польскія землі. Усё гэта таксама паўплывала на мабілізацыю патрыятычных колаў Рэчы Паспалітай, каб бараніць сваю дзяржаву ад магчымасці далейшых актаў агрэсіі з боку суседзяў.

Рэформе супрацьдзейнічалі магнаты, буйнейшыя землеўладальнікі, для якіх новае палітычнае становішча ў выніку рэформаў азначала страту палітычнага ўплыву, пагрозу недатыкальнасці іх багатых маёнткаў і іх права прыгнятаць сялян. Для гэтых колаў, якія прызвычаіліся да традыцыйных метадаў вядзення гаспадаркі і эксплуатацыі прыгонных сялян, рынкавыя адносіны былі непатрэбныя. Таму яны шукалі дапамогі ў замежных урадаў, перш за ўсё ў Кацярыны II. Расійскай імператрыцы таксама непатрэбна было мець каля граніц сваёй імперыі краіну, якая вызвалялася ад феадальна-прыгонніцкага ладу і якая б магла паслужыць у гэтым узорам для Расіі.

У такіх менавіта абставінах і была прынята Канстытуцыя 3 траўня 1791 г., дзянне якой было пашырана на тэрыторыю каралеўства Польскага і Вялікага Княства Літоўскага. Фармальна яна называлася Пастановай аб урадзе ("Устаўай жондавай") і складалася з прыамбулы і 11 раздзелаў.

Аўтарамі Канстытуцыі 3 траўня былі кароль польскі і Вялікі князь літоўскі Станіслаў Аўгуст Панятоўскі, адзін са знакамітых тагачасных палітыкаў, маршалак вялікі ВКЛ Ігнацы Патоцкі (вядомы асветнік і дзеяч Адукацыйнай камісіі) і вядомы рэфарматар, філасоф і пісьменнік, ксёндз Гуга Калантай (раней рэктар Ягелонскага універсітэта ў Кракаве). Менавіта Гуга Калантай канчаткова адрэдагаваў тэкст канстытуцыі перад яе прыняццем. Гэтай рабоце садзейнічаў маршалак (старшыня) Сойму Станіслаў Малахоўскі, адзін з лідэраў патрыятычнай партыі. Сярод кіраўнікоў гэтай партыі быў і наш зямляк – Казімір Нестар Сапега, генерал артылерыі ВКЛ і маршалак канфедэрацыі ВКЛ на Чатырохгадовым сойме.

Канстытуцыя 3 траўня 1791 г. істотна змяняла дзяржаўна-прававы лад Рэчы Паспалітай. Яна рэгулявала правы і абавязкі ўсіх жыхароў. Уводзілася спадчынная манархія замест выбарнага пажыццёва караля. Такім чынам, ліквідавалася магчымасць пастаяннага ўмяшання з боку замежных дзяржаў перад выбарамі караля (з уведзеннем на тэрыторыю Беларусі і Польшчы іншаземных войскаў), каб забяспечыць перамогу свайму кандыдату, як гэта заўсёды рабіла ў XVIII ст. Расія.

У канстытуцыі замацоўваўся падзел улады на заканадаўчую, выканаўчую і судовую, згодна з прагрэсіўнай тэорыяй аб уладзе французскіх філосафаў другой паловы XVIII ст. Цэнтральная ўлада ў дзяржаве станавілася больш моцнай. Кароль надзяляўся больш шырокімі паўнамоцтвамі, чым гэта было раней. Ён прызначаў вышэйшых дзяржаўных асобаў, сенатараў, біскупаў, генералаў і афіцэраў. Аднак усе акты караля без подпісу адпаведнага міністра (контрасігнацыі) не мелі прававо ймоцы, бо толькі міністр адказваў перад соймам за дадзены акт.

Выканаўчую ўладу ва ўсёй дзяржаве ажыццяўляў агульны ўрад з міністраў на чале з каралём. Міністры і камісіі пры іх (міністэрствы) кантраляваліся соймам. Заканадаўчую ўладу ажыццяўляў сойм з дзвюх палатаў: палаты дэпутатаў (пасоў) і сенату. Калі паміж палатамі не было згоды адносна законапраекта, яны збіраліся разам і вырашалі пытанні большасцю галасоў.

Былі ліквідаваныя архаічныя інстытуты дзяржаўнай улады: канфедэрацыі (законнае права шляхты аб'ядноўвацца і выступаць са зброяй у абарону сваіх інтарэсаў), ліберум вета (права адзінага пасла прыняцця законаў Соймам, калі адзін дэпутат, нязгодны з большасцю, меў права заблакаваць прыняцце закона). Утварэнне адзінага ўраду для ўсёй Рэчы Паспалітай пераўтварала яе з фактычнай канфедэрацыі ў федэратыўную дзяржаву, аднак асобныя дзяржаўныя пасады і структуры кіравання ў Польшчы і ў Беларуска-Літоўскай дзяржаве захоўваліся, таксама як і асобныя войскі і законы, у тым ліку знакаміты кодэкс законаў Беларусі – Статут Вялікага Княства Літоўскага 1588 года.

У сацыяльных адносінах Канстытуцыя захоўвала панавальнае становішча шляхецкага стану (дарэчы вельмі вялікага па колькасці, 10-12% насельніцтва Польшчы і Беларусі), і ўся шляхта была зраўнаваная ў правах. Але беззямельная і бяднейшая чыншавая шляхта ("галота") пазбаўлялася выбарчых правоў на паветовых сойміках, тым самым звужалася палітычная роля магнатаў, якія абапіраліся на залежную ад іх "шляхту-галоту".

Пацвярджаўся закон аб гарадах 1791 г., які абвяшчаўся часткай канстытуцыі. Жыхары гарадоў – мяшчане атрымалі такое ж права асабістай недатыкальнасці, якое мела шляхта. Цяпер іх нельга было арыштоўваць да судовага разбору, акрамя выпадкаў затрымання на месцы злачынства. Ім дазвалялася купляць маёнткі і займаць ніжэйшыя пасады ў дзяржаўных установах і судах. Прадстаўнікі мяшчанаў удзельнічалі ў працах соймавых камісіяў. Мяшчане атрымалі права набываць шляхецтва праз сойм альбо на вайсковай службе, калі даслужваліся да рангаў штабс-капітана, капітана, а ў кавалерыі – ротмістра.

Былі прынятыя новыя юрыдычныя нормы аб сялянах. Абвяшчалася, што сяляне знаходзяцца пад апекай права і ўлады. Устанаўлівалася, што паны і сяляне павінны былі заключаць калектыўныя дамовы аб колькасці, памеры і тэрміну выканання павіннасцяў сялянамі. Гэтыя дамовы не маглі змяняцца панам. Тым самым абмяжоўвалася самавольства паноў. Абвяшчалася асабістая свабода сялянам, якія ўцяклі з іншых краёў (перадусім з Расіі).

Канстытуцыя абвяшчала свабоду веравызнанняў, але першынство заставалася за рымска-каталіцкай канфесіяй. У выніку гэтага ў ліпені 1791 г. у Пінску на генеральнай кангрэгацыі Праваслаўнай царквы была абвешчана аўтакефалія (самастойнасць) Праваслаўнай царквы ў Рэчы Паспалітай. Такім чынам, фармальная падпарадкаванасць сіноду Рускай Праваслаўнай царквы ў Пецярбургу была скасавана.

Але што, бадай, было галоўным у тэксце канстытуцыі, дык гэта тое, што ўпершыню на еўрапейскім кантыненце было абвешчана верхавенства народа, а не караля, цара ці прэзідэнта. Ранейшае юрыдычнае паняцце "народ-шляхта" пашыралася ад гэтага часу на "народ-уласнікаў" і на "народ-насельніцтва" з сялянамі ўключна. Апошняя фармулёўка больш яскрава прызнавалася ў дакументах паўстання 1794 г. пад камандаваннем Тэдэвуша Касцюшкі, як паўстанцкім кіраўніцтвам у Польшчы, так, асабліва, паўстанцкім кіраўніцтвам у Літве і Беларусі.

Канстытуцыя 3 траўня 1791 года застаецца гістарычным актам, які ў гісторыі не толькі польскага, але і беларускага народа даваў магчымасць перайсці да парламенцкага спосабу кіравання краінай. Сойм (парламент) станавіўся дзеяздольным заканадаўчым і кантрольным органам, цэнтрам улады ў дзяржаве. Гэта быў узор еўрапейскага, а не азіяцкага (самадзяржаўнага, дыктатарскага) метаду кіравання дзяржавай.

Канстытуцыя 3 траўня давала магчымасць развіваць рынкавым адносінам у краіне, вяла да далейшага паляпшэння становішча сялянаў і да скасавання прыгоннага права.

Аднак палажэнні Канстытуцыі 3 траўня 1791 г. не былі цалкам ажыццёўлены. Ужо праз год расійскія войскі разам з рэакцыйнай групоўкай магнатаў (Таргавіцкай канферэнцыяй) пасля двух месяцаў ваенных дзеянняў перамаглі войскі Польшчы і Вялікага Княства Літоўскага і акупавалі краіну (разам з прускімі войскамі). Акт Таргавіцкай канфедэрацыі прызнаў дзейнасць Чатырохгадовага сойму незаконнай, а Канстытуцыю 3 траўня скасаванай. Яе замяніла канстытуцыя 1793 г., прынятая на Гарадзенскім сойме. Быў праведзены другі падзел тэрыторыі Рэчы Паспалітай. Акупацыя краіны і захоп яе новых тэрыторый Расіяй і Прусіяй выклікалі ўздым вызвольнага руху і паўстанне 1794 года.

